ТЭЛЕПРАГРАМА НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ – на 3-й старонцы

Свабода, роўнасць, братэрства!



# Беларускі УСХОД

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!
**НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ГАЗЕТА**

● Заснавана ў 1991 годзе ● № 21 (77) ● Пятніца, 3 снежня 1999 г. ● У розніцу кошт 20000 руб.

## НАВІНЫ, ПАДЗЕІ, ФАКТЫ

### "МАСКІ" АБРАБАВАЛІ МАГАЗІН

Касцюковіцкая міліцыя шукае траіх злачынцаў, якія нядаўна на прыканцы працоўнага дня ўварваліся ў магазін. Рабаўнікі былі ў масках. Пад пагрозай абрэза паляўнічай стрэльбы і нажа яны прымусілі загадчыцу магазіна аддаць ім выручку — 96 мільёнаў рублёў. Прыхапіўшы з сабой яшчэ і тры бутэлькі гарэлкі злачынцы пакінулі магазін і адправіліся святкаваць удачу і "спырскваць" здабычу.

**(Наш кар.)**

### У МАГІЛЕВЕ СРЭБРА ПРАДАЮЦЬ КІЛАГРАМАМІ

У Магілеве затрыманы двое гандляроў срэбрам. Яны трапілі ў рукі супрацоўнікаў міліцыі, калі на праспекце Пушкіна, каля Задняпроўскага рынку, збывалі 7 кг 850 грамаў срэбнага лому. Высветлілася, што незаконную аперацыю праводзілі вартаўнік дзіцячага сада і апаратчык аб'яднання "Хімвалакно".

**Ігар ГРЫШЫН.**

### І "САМАПАЛ" — ЗБРОЯ НЕБЯСПЕЧНАЯ

У Касцюковічах мясцовы жыхар быў аматарам вырабляць агнястрэльныя прыстасаванні. Але ён забыўся на мудрую народную прыказку, што раз у год і качарга страляе. Прама ў хаце ў прысутнасці 11-гадовай дачкі ён стаў правяраць баявую гатоўнасць самаробнага малакалібернага пісталета. Пры разхборцы пісталет нечакана стрэліў і куля трапіла дзяўчынцы ў жывот. Зараз дачка ў бальніцы, а бацька апроч згрызот сумлення будзе несці, напэўна, і адказнасць перад законам у судзе.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

### УРАД РАШЫЎ, А ПРАЗ ПАРУ ДЗЁН — ПЕРАДУМАЎ...

Сялян вельмі абрадавала рашэнне, прынятае 16 лістапада на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў, аб павышэнні закупачных цэн на малако, буйную рагатую жывёлу і свіней. Прычым на працягу снежня 1999 —лютага 2000 года намечанае павышэнне павінна забяспечыць пакрыццё затрат на вытворчасць гэтай прадукцыі ды яшчэ і дазволіць атрымаць прыбытак 20% да поўнага сабекошту! Гэта сапраўды мудрае рашэнне. І справядлівае. У канцы-канцоў селянін не будзе гарбаціцца за кукіш, а будзе мець прыбытак і, значыцца, зажыве палюдску! Урад і Прэзідэнт (а менавіта да яго быў зварот беларускага Савета калгасаў наконт павышэння закупачных цэн) нарэшце павярнуліся тварам да гаротных вясковых працаголікаў. А мой цёзка, Васіль Даўгалёў, першы намеснік прэм'ер-міністра, падкрэсліў, што Урад прызнаў неабходным штомесяц змяняць закупачныя цэны на прадукцыю жывёлагадоўлі з улікам [illegible] індэкса цэн на прамысловую прадукцыю, якая спажываецца сельскай гаспадаркай, і каціроўкі долара ЗША.

Вось гэта здарова! Ура Ураду, ура Прэзідэнту!

— Нарэшце нас падтрымалі, нарэшце нашу працу ацанілі па заслугах, вось зажывем цяпер! — загаварылі вяскоўцы...

Толькі зараўчасна. Бо ў нашай краіне дурняў усё ідзе наперакасяк, праз пень-калоду. Дарэмна радуецеся, дарагія вяскоўцы. Вас усё жыццё падманвалі, аблічвалі, зараз падманваюць, аблічваюць і, хто ведае, колькі яшчэ надалей будуць падманваць і аблічваць.

Ужо 20 лістапада ва ўрадавай газеце "Звязда" з'явілася паведамленне, што павышэння закупачных цэн "пакуль" не будзе. Як сведчыць газета, аб гэтым заявіў начальнік упраўлення эканомікі аграрнага ведамства Сямён Шапіра. Ён, праўда, не выключыў, што некалі павышэнне ўсёж можа адбыцца. Толькі вось калі і на колькі? Гэта ўжо як ведаць... Так што чакайце, вяскоўцы, з мора надвор'я. Чакайце, мо калі-не-калі і на вашай вуліцы свята будзе. Толькі верыцца ў гэта з цяжкасцю, бо ў нашага Урада "сем пятніц на тыдні": сёння рашаюць адно, а заўтра — супрацьлеглае...

**Васіль ДАЎГАЛЁЎ.**

### ГОРШ ЗА ЎСІХ З ЗАРОБКАМІ — СЯЛЯНАМ

За мінулы месяц даўгі па зарплаце уцэлым па краіне зменшыліся. Ды толькі не вяскоўцам. Сітуацыю па выплаце заробкаў у сельскай гаспадарцы можна назваць крытычнай. У прыватнасці, на 10 лістапада 1667 калгасаў і саўгасаў Беларусі мелі даўгі па заробках за верасень, 940 гаспадарак за жнівень, 262 — за ліпень. 5 не выплочвалі заробкаў яшчэ нават за чэрвень!

**Сяргей ГРЫБ**

### "ГАЗПРОМ" ПАКУЛЬ ЧАКАЕ?

Запазычанасць Беларусі за пастаўкі прыроднага газу з Расіі працягвае павялічвацца. Па афіцыйных звестках, калі да 1 студзеня 1999 года даўгі рэспублікі за расійскі газ ацэньваліся ў 232,3 мільёна долараў, то па стану на 1 кастрычніка яны склалі ўжо 265,7 мільёна долараў ЗША.

**Наш кар.**



● ВЯСКОВАЯ ПРАБЛЕМА!

## КОНЬ АЎСА ДАРЭМНА НЕ ЕСЦЬ

Конь — памочнік на сядзібе. Будзь гэта асабістая, або калектыўная гаспадарка. Але, як некалі ў асобных гаспадарках раёна з дзесятак год таму памалу звяліся са свіней, гэтак жа памалу пачынаюць пазбаўляцца і ад коней.

Рэзка зьмяншаецца пагалоўе, якое мелася ўсяго некалькі год назад. Калі летась у гаспадарках раёна мелася 723 кані, то сёлета іх стала ўжо 635. А ў 1992-м годзе іх было 1270. Роўна ў два разы больш.

Чаму гэта сёння конь не ў пашане ў гаспадарнікаў сяла? У райплемстанцыі лічаць, што вельмі шмат коней прадалі прыватнаму сектару. Але ў гэтым прыходзіцца сумнявацца.

У гаспадарках, відаць, гэты факт звязваюць з рэаліямі сённяшняга жыцця. Паспрабуй многа развесці. Тады ўзнікнуць праблемы з памяшканнямі. Ды і дзе на ўсіх іх набярэшся калёс, саней, збруі? І з кармамі напружанка. А на зіму патрэбны для іх і сена, і авёс.

Але тут трэба глядзець куды глыбей. Як думае дбайны гаспадар-прыватнік? Конь — гэта і цягло, і грошы, і ўгнаенне. Адсюль і ўрaджай на ўласнай сядзібе!

Дарэчы, цэны на кані і ялавічыну, лічы, аднолькавыя, а затраты на кілаграм прывагі намнога меншыя.

Стрымлівае развіццё конегадоўлі і племянны фактар. Коней магло б быць куды больш, і пародзістых, але за апошнія 10 год ніводнай племянной кабыліцы ці жарабка не было прыдбана на племянных конезаводах. Кіраўнікі гаспадарак чамусьці лічаць, што конегадоўля не дужа вартая справа і, як сумны вынік, у калгасах "Новае жыццё", "Герой працы", імя Янкі Купалы, племзаводзе "Цімавава", саўгасе "Мілаславіцкі", эксперыментальнай базе "Раднянская" няма жарабцоў-вытваральнікаў. А якое можа быць павелічэнне пагалоўя і колькаснае і якаснае, калі няма матачнага пагалоўя?

Якія толькі работы не выконвае конь-працаўнік, бедалага, прыносячы карысць і выгоду людзям пры мінімальных затратах на яго ўтрыманне! На конях і жывёлу пасвяць, і кармы на фермах падвозяць, і малако ў насельніцтва збіраюць, і грамадскае дабро вартуюць. Ды і для спецыялістаў сярэдняга звяна — нязменны транспарт.

У калгасе "Клімавіцкі" летась было паспрабавалі тэхнікай абслугоўваць фермы — не атрымалася: бензіну няма, а то дызельнага паліва...

Але і конь патрабуе хоць крыху ўвагі і клопату. Былі выпадкі крадзяжу коней у калгасах "Рабочы", "Сасноўка", саўгасе "Звянчацкі" і ў некаторых іншых гаспадарках. Таму з мінулага года уведена нумарацыя жывёлы выпальваннем азотам на крыжу каня.

Па тэхналогіі конегадоўлі ў кожнай гаспадарцы павінна быць хоць па адной коняферме. А на справе коні па ўсіх фермах раскіданы, асобныя ж наогул перададзены ў вольнае карыстанне пастухоў, малаказборшчыкаў, брыгадзіраў і аб'ездчыкаў...

Падыходзячыя хоць трохі памяшканні для коней маюцца хіба што толькі ў эксперыментальнай базе "Раднянская" ды племзаводзе "Цімавава". Словам, конегадоўля аказалася ў самым заняпалым стане. Камбікорм і авёс практычна нідзе коням не выдаецца. Яны атрымліваюць з вясны да зімы ў асноўным тое, што перападае ім на лузе.

Як бачна, ёсць над чым папрацаваць як кіраўнікам, так і спецыялістам гаспадарак. Трэба спаўна выкарыстоўваць конскую цяглавую сілу. Бо рабочы конь здаўна выкарыстоўваўся на зямельцы нашай. А конь як вядома, аўса дарма не есць... А можа ў калгасах і саўгасах лічаць інакш?

**Іван ЛАПО,**
**рэдактар аддзела эканомікі Клімавіцкай раённай газеты "Родная ніва".**

*P.S. Пакуль матэрыял рыхтаваўся да друку, у гаспадарках раёна не далічыліся яшчэ чатырнаццаці коней.*

*Яўген ЛУГІН, старшыня Беларускай сялянскай партыі*

# РАБСТВА — Ў КАЛГАСАХ, КАТАРГА — НА ПРЫСЯДЗІБНЫХ УЧАСТКАХ

Беларуская сялянская партыя адназначна выступае за права прыватнай уласнасці на зямлю. Зямля — галоўнае наша багацце. У Беларусі на душу насельніцтва прыпадае два гектары тэрыторыі, амаль па адным гектары сельгасугоддзяў і па шэсцьдзесят дзве соткі ворнай зямлі. Па гэтых паказчыках наша краіна займае першае месца ў Еўропе. Але зямля сама багацця не дае. Ёй патрэбен гаспадар. Прыватная уласнасць на зямлю — не самамэта, а сродак. Яна дае магчымасць закласці зямлю ў банк, атрымаць крэдыт, купіць тэхніку, насенне, угнаенні і самааддана працаваць. Працаваць на сябе. Адсюль лозунг Сялянскай партыі: "За вольную працу на ўласнай зямлі!"

Міжнародны вопыт паказвае, што усе краіны выходзілі з крызісу шляхам зямельнай рэформы, шляхам адраджэння сяла і сялянства. Нават кітайцы, якія яшчэ прытрымліваюцца сацыялістычнай ідэі, распусцілі камуны, аддалі зямлю сялянству, забяспечылі сябе харчаваннем і цяпер прадаюць сельгаспрадукцыю суседнім расійскім рэгіёнам.

Яшчэ пяць гадоў таму Васіль Старавойтаў зрабіў прысуд калгаснай сістэме. Ён сказаў: "У калгасе няма такой сілы, якая б прымусіла чалавека добра працаваць". Менавіта адсутнасць матывацыі працы, безгаспадарчасць, шматлікі кіраўнічы апарат і іншыя недахопы калгаснай сістэмы робяць сабекошт яе прадукцыі вышэйшым, чым сусветныя цэны. Такую прадукцыю немагчыма рэалізаваць у рынкавых умовах.

Больш за палову калгасаў у Беларусі з'яўляюцца нерэнтабельнымі. Я лічу, што рэнтабельнасць астатніх трымаецца на бясплатнай працы калгасаў. Калі б калгаснікам заплацілі нармальны заробак, то ўсе калгасы сталі б банкрутамі. Гэтую думку пацвердзіў былы міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Іван Шакола: "Сітуацыя, — казаў ён, — сёння складаецца нават не крытычная, я ўжо не ведаю, як яе назваць. Па выніках года 600 гаспадарак будуць стратнымі. Запазычанасць складае 27 трыльёнаў рублёў. Уся прадукцыя, якая вырабляецца калгасамі і саўгасамі, стратная. Далей так працаваць немагчыма". Праўда Лукашэнку не спадабалася, і міністра адправілі ў адстаўку.

Зададзімся пытаннем, чаму ўлада трымаецца за калгасы, як п'яны за плот. Адказ даў Лукашэнка 5 сакавіка 1998 г. на нарадзе АПК ў Гродне. Ён сказаў: "Мы сёння не можам разбурыць калгасы і саўгасы таму, што гэта цэнтральная дзяржаўная структура ў вёсцы. Калі не будзе калгаса ці саўгаса, дзяржава не зможа эфектыўна праводзіць палітыку ў сельскай мясцовасці". Адсюль вынікае, што прэзідэнт менш за ўсё думае пра эфектыўнасць сельскай гаспадаркі. Галоўны яго клопат — утрымаць уладу любымі сродкамі. І ён паслядоўна праводзіць такі курс. Так, яшчэ 6 лютага 1995 года Лукашэнка падпісаў Укза N 51, якім ён перавёў старшынь калгасаў на кантрактную сістэму працы. Без кантракта з раённымі "вертыкальшчыкамі" старшыня калгаса працаваць не можа. Гэтым указам былі знішчаны рэшткі калгаснай дэмакратыі і канчаткова ўсталёвана прыгоннае права на вёсцы.

Вясной 1995 года ўказ прэзідэнта дазволіў пашырыць прысядзібныя ўчасткі да аднаго гектара. На першы погляд, гэта адзін з накірункаў зямельнай рэформы. На самай справе ўлада гэтым крокам адцягнула агонію калгаснай сістэмы. Задумалі яны наступнае:

— па-першае, прывучыць калгаснікаў, як і пры Сталіне, жыць за кошт прысядзібнай гаспадаркі, а ў калгасе працаваць амаль бясплатна, адрабляць паншчыну;

— па-другое, моцна прывязаць вяскоўцаў да калектыўнай гаспадаркі, бо, атрымаўшы гектар зямлі, селянін трапляе ў кабалу: апрацаваць яе без калгаснай тэхнікі немагчыма;

— па-трэцяе, вырашыць праблему харчавання не толькі вяскоўцаў, але і большасці гараджан. Ужо стала традыцыяй, што гараджане едуць да сваіх бацькоў і сваякоў вясной —на пасяўную, летам — на нарыхтоўку сена, а восенню — капаць бульбу і буракі. Дамоў вяртаюцца з торбай сала. Мы ведаем, што адносная стабільнасць у гарадах Беларусі забяспечваецца менавіта гэтай вясковай торбай сала. Без яе краіну даўно ўжо трэслі б шматлікія канфлікты галодных людзей.

Наступны крок па ўратаванні калгаснай сістэмы — далучэнне дохлых калгасаў да паўжывых. Вынік будзе адзін — абодва пойдуць на дно.'

Прэзідэнцкая палата абмяркоўвае зямельны кодэкс. Там таксама праглядваецца спроба ўратаваць калгасы. Для гэтага прысядзібным гаспадаркам дазваляецца браць у арэнду яшэч 3 гектары зямлі. Мера зразумелая. Тэхніка калгасаў на 80 працэнаў выпрацавала свой рэсурс. Апрацаваць усе сельгасугоддзі калгасы не здольныя. Вось і вырашылі павесіць лішнюю зямлю на калгаснікаў. Відавочна, што такім падыходам улада разлічвае вырашыць яшчэ адну праблему. Становішча у прамысловасці крытычнае. Хутка "запушчаныя" прэзідэнтам заводы зноў стануць. Людзі застануцца без работы. У калгас іх і калом не загоніш. Вось улада і рыхтуе ім фронт работы на прысядзібных участках.

Старэйшае пакаленне ведае, як улады ставіліся да прысядзібных гаспадарак. Доўгія гады іх наогул хацелі зжыць са свету. Але яны выжылі. І цяпер валодаюць пятнаццаццю працэнтамі зямлі, а вырабляюць 50 працэнтаў сельгаспрадукцыі. Трэба падкрэсліць, што дзяржава ў гэты сектар не ўкладвае ніякіх фінансавых сродкаў. Калгасам — і льготныя крэдыты, і датацыі, і адтэрміноўка выплат. А яны ўсё-роўна развальваюцца на вачах.

Але і прысядзібныя гаспадаркі не маюць будучыні. Іх нарадзіла калгасная сістэма. Тут на адзінку прадукцыі сіл і часу трацiцца больш, чым у калгасе. Жыццё ўладальнікаў прысядзібнай гаспадаркі можна смела параўнаць з катаргай. Пастаянная штодзённая праца без выхадных і святочных дзён, без водпускаў. Амаль усё робіцца ўручную. Дзеля чаго такія пакуты? Адказ адзін: трэба выжыць. Рэжым выжывання расцягнуўся на чатыры пакаленні. Людзі ўжо так прыцярпеліся, што гэты ГУЛАГ лічаць нормай жыцця.

За гады праўлення Лукашэнкі найбольш перспектыўная форма гаспадарання, якая даказвае сваю эфектыўнасць ужо другое стагоддзе, — фермерства — пайшло на спад. Штучныя перашкоды чыноўнікаў, варожасць калгаснага асяроддзя, адсутнасць падтрымкі з боку дзяржавы не спрыяюць развіццю фермерства. Больш за тысячу фермераў са словамі "Падавіцеся вы гэтай зямлёй" вярнулі яе дзяржаве.

Чаму ж Аляксандр Лукашэнка так неўзлюбіў фермераў? Магчыма таму, што ён сам у 1991 годзе напісаў заяву ў Шклоўскі райвыканкам з просьбай выдзеліць яму 50 г зямлі для вядзення фермерскай гаспадаркі. І атрымаў яе. Але потым па невядомых прычынах вярнуў яе дзяржаве і цяпер у беларускай статыстыцы лічыцца, як збанкрутаваны фермер.

Сумна і крыўдна, што яшэч на пачатку XX стагоддзя былі людзі, якія распрацавалі тэорыю і ажыццяўлялі на практыцы зямельную рэформу. Вялікі рэфарматар Пётр Сталыпін пісаў: "Пакуль селянін бедны, пакуль не валодае зямельнай уласнасцю, пакуль ён знаходзіцца ў цісках абшчыны, ён застаецца рабом і ніякі пісаны закон не гарантуе яму грамадзянскай свабоды".

Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку, я лічу, вольныя людзі не патрэбны, яму патрэбны рабы. Рабства і катарга —вось вынік яго дзейнасці ў сельскай гаспадарцы. Рабства ў калгасах, а катарга на прысядзібных участках. Гэта амаральная, антычалавечная палітыка.

Ёсць і больш сур'ёзнае абвінавачванне. Сельская гаспадарка сёння перарасла ў агульнадзяржаўную праблему. Менавіта яна забяспечвае нацыянальную бяспеку краіны. Зрабіўшы стаўку на неэфектыўную калгасную сістэму, прэзідэнт падарваў бяспеку дзяржавы. А гэта ўжо палітыка нацыянальнай здрады.

**За зямлю і волю!**
**Жыве Беларусь!**

МИНИМАЛЬНАЯ ПЕНСИЯ В БЕЛАРУСИ СОСТАВЛЯЕТ СЕГОДНЯ 6 ДОЛЛАРОВ

# ДОРОГИЕ МОИ СТАРИКИ...

Листаю иностранный глянцевый журнал для пожилых... Планета "стареет", сегодня 580 млн. людей в мпре — в преклонном уже возрасте. К 2020 году, по подсчетам ученых, их число достигнет 1 миллиарда. В скором будущем пожилые составят большинство населения планеты. Видно, что на Западе интересы будущего большинства учитываются. У глянцевого журнала, во всяком случае, высокий тираж. Советы врачей, психологов, рекомендаций парикмахеров, косметологов. Мода... Почти на три страницы интервью с долгожительницей из Голландии. "Секреты ее молодости" Секреты нехитрые. Побольше спать, побольше двигаться (велосипед, плавание, прогулки верхом), поменьше беспокоиться, почаще менять впечатления (не зацикливаться на музеях, позволять себе "неинтеллектуальный" отдых где-либо на пляже на берегу океана).



*Пенсионеры пришли за пенсией.*

**Фото В. БЫСОВА.**

Раз в неделю голландская бабушка рекомендует голодать. Раз-два в месяц — пополнять "эмоциональный резервуар", посещая детей и внуков... Пролистав журнал, отдаю его прямому почти адресату. На лавочку у подъезда. Трем своим несгибаемым соседкам.

Журнал на лавочке рассмтаривается строго, но без особого любопытства.

Без зависти обсуждается фотография к интервью. Загорелая, нарумяненная голландская старушка соседкам даже кажется существом низшего порядка, похоже, к сытой и спокойной жизни на наших лавочках испытывают чувство сродни презрению. Слишком долго у нас внушалось, что чем человек хуже — тем он лучше, а знание "суровой правды жизни" было одним из условий воспитания личности. Слишком упорно отрицались материальные ценности и прочие атрибуты "мяшчанскага дабрабыту"... Таких, знающих жизнь, преодолевших не один трудный для страны этап, в Беларуси более 2 миллионов. Каждому четвертому из них уже за 75, 1.011 белорусам свыше 90 лет, около 125 тысяч пожилых сегодня — так называемые одинокие престарелые...

Какие уж там экзотические берега и променады верхом! Из глянцево-журнальной жизни большинству наших пенсионеров доступны только голодание и пешие прогулки.

Впрочем, наши старики научены жить в предлагаемых обстоятельствах. Сравнивая свое сегодняшнее существование с послевоенным, например, находят даже плюсы. Вот, скажем, пенсию им в ноябре увеличили. Минимальная теперь - 4 млн. 502 тыс. рублей, размер средней — 10 млн. 920 тысяч. Максимальная для неработающих пенсионеров равна 17 млн. 879 тыс. (при условии, что рабочий стаж у женщин не менее 40 лет, у мужчин 45 лет, а индивидуальный коэффициент — 1,3 и выше). Трудно сказать, что подумают о размерха оплаты своего сорокалетнего труда пенсионеры после деноминации, но пока обилие нулей многих успокаивает, даже дает иллюзию высокой оплаты. На курс "у.е." пожилые, как правило, не ориентируются, не привыкли. И не очень задумываются над тем, что живут на 6—20 долларов в месяц. На вещи, которые никогда не были для них доступными — от фруктов до качественных предметов гигиены, —старики и не засматриваются. Они неприхотливы, непритязательны. Они умеют отказываться от нужного в пользу крайне необходимого... Действительно, ничто у нас в стране не обходится так дорого и не стоит так дешево, как старость.

**Маша Лунёва.**

Іван ЛАПО

## *ГУМАНІТАРНАЯ СУМКА*

### АПАВЯДАННЕ

Жэнька ўбёг у кватэру ўзрушаны. Бы на сёмым небе быў! Вочы ягоныя гарэлі і свяціліся непрыхаванай радасцю.

— Мама! Паглядзь, якую прыгожую сумку мне хлопцы падаравалі! — на хаду выклаў ён навіну.



— Ну і добра, сынок. Будзе ў чым у школу хадзіць, на спартыўныя спаборніцтвы ездзіць, — адказала тая, займаючыся сваім.

Хлапчына паводзіўся наведваць шашачны гурток пры аддзеле дзіцячай творчасці раённага цэнтра пазашкольнай работы. Часам перамагаў на турнірах. Часта ездзіў на іх. Так што абноўка была дарэчы.

Але няўцям было старой маці, якая паставіла на ногі бадай што адна пяцярых дзетак, што гэты гуманітарны хлопцаў "падарунак" потым аддасца болем у сэрцы, аб ім будзе шкадаваць шмат часу, бо той урэшце-рэшт прывядзе нават да аперацыі...

Ужо ў абед прама з працы яе выклікалі ў міліцыю. Было пасуналася да знаёмага міліцыянера, каб папытаць што і да чаго. Той толькі кінуў на хаду:

— А ты па калідорові прайдзіся...

— Там, як на шчасце, знаёмы намеснік начальніка быў на месцы.

— Суседзе, што ж гэта такое робіцца на гэтым свеце? Дзве гадзіны бітыя сяджу і нічога не даб'юся. Сына затрымалі, і не ведаю за што. Ён жа і прагаладаўся, мабыць, ўжо.

Ды не ведала жанчына, што намеснік начальніка, які дагэтуль прыжываў у адной шматпавярхоўцы, як на бяду, развёўся са сваёй палавінкай.

Была некалі і ў іхняй кватэры. У адным жа пад'ездзе жылі! Бывала, і затрыманых раённым аддзелам унутраных спраў правапарушальнікаў прысылаў, калі была вострая на тое патрэба. Па гаспадарцы ў нечым дапамагчы. А тут — не прызнае і ўсё. Нагамі тупае.

— Забярыце ад мяне гэту жанчыну? Я яе першы раз у жыцці бачу!

Во як бывае часам! Як змяняецца чалавек! Іншыя ўжо міліцыянеры параілі маці схадзіць у райвыканкам. Там начальства вышэйшае. Яно ўсё і вырашае. Тое было якраз на цэнтральнай плошчы. Звярнулася да намесніка старшыні, што звычайна курыруе іншаземныя дэлегацыі, ды паездкі дзяцей за мяжу. Словам, тую гуманітарку.

Той хутка ўцяміў што і да чаго, цыкнуў міліцыянерам, што дзяжурылі і тыя пад рукі гэтак акуратненька падхапілі-панеслі худзенькую жанчыну. Павялі зноўку ў РАУС. Ды так моцна трымалі, відаць, ведаючы з вопыту, каб крый Божа яшчэ і не ўбёгла. Бы нейкая злачынца была перад імі. На руках яеных апасля нават пальцы іхнія адбіткамі засталіся на доўгі час. Яе вядуць, а яна — пытаецца:

— За што? Чым жа гэта я прывінілася?

— Ты, цётка, грамадскі парадак парушыла, — пачула ў адказ.

Кінулі яе ў камеру часовага затрымання да сына.

— І ты сюды, мамка? Да мяне прыйшла? — радасна кінуўся да яе той і тут жа — адступіўся.

Бо тая не паспела апамятавацца адразу ж і яшчэ некалькі хвілін сядзела нерухома, аслупянелая такім нечаканым паваротам падзей. Разважаючы, чаму гэтак жорстка з ёю абыйшліся? Шпурнулі ў памяшканне, бы нейкі куль з мехам, як нежывую істоту, бо некалькі метраў у паветры праляцела. Многае перажыла за гэтыя лічаныя хвіліны. Мо, паўжыцця згубіла? А што частку — гэта ўжо дакладна.

— Чаму вы мяне затрымалі? — калі апамятавалася, паставіла пытанне рубам.

— Замаўчы, прастытутка! — гаркнуў на яе маладжавы чалавек у міліцэйскай форме.

Праз колькі часу яе выпусцілі. Жэньку — таксама! Высветлілася, што знаёмыя Жэнькіны сябрукі сцягнулі з гуманітаркі (з аўтамабіляў, што пастаянна спыняюцца з гуманітарнай дапамогай на той жа самай, носячай імя Вялікага Кастрычніка, цэнтральнай плошчы райцэнтра, дзе яе гэтак "акуратненька" бралі пад рукі міліцыянерыкі), некалькі сумак. Адну з іх і падаравалі яму, як добраму сябру. Сяброўства на тое і сяброўства. Яно заўсёды выручае!

Пасля маці было памкнулася да знаёмага афіцэра міліцыі. Паскардзілася. Расказала, што набалела на душы. Той параіў пайсці ў пракуратуру. Зняць сінякі ў час мэдэкспертызы. Але ж ці дасць накіраванне міліцыя? Самая на сябе?

У пракуратуры на яе скаргу адказалі, што ў дзеяннях работнікаў міліцыі не было бачна прыкмет беззаконня. На тым і закончылася яе ходка да вышэйстаячага начальства.

...Жэнька па ранейшаму працягвае займацца спортам. А сумка, сумка ў яго свая, старэнькая. Яшчэ нічога сабе. Дасць Бог, маці новую купіць, як узаб'ецца на капейчыну са сваёй невялічкай зарплаты паштальёнкі.

Ды і ці ў ёй, гэтай сумцы, справа? Хаця — як сказаць. Не з'явіся у Жэнькі новая, мо і не надарылася гэта гісторыя і не напісалася б гэтае апавяданне. У навуку іншым. Дарослым і дзецям. Аповяд — сум, аповяд — павучанне, аповяд —здзек. З годнасці чалавечай. У наш час дэмакратыі і дэкларавання абароны правоў чалавека. Законы тыя, бач, для бедных і безабаронных пісаны. Для народа.

А сумка, сумка тая, па праву магла б належыць гэтай бядотнай сям'і, як шматдзетнай і малазабяспечанай. Бо не для каго іншага, як для такіх вось гаротных людзей і дастаўляецца гуманітарка іншаземцамі.

Толькі вось пасля таго выпадку маці давялося злегчы ў бальніцу. Ёй зрабілі аперацыю. На той жа самай руцэ, дзе засталіся сляды-сінякі яе затрымання. Хутчэй за ўсё сумны выпадак паскорыў даўняе захворванне.

1999 г.

### АДНЫМ СКАЗАМ

У рэспубліцы сёння пражывае звыш 400 тысяч інвалідаў.

* * *

Калі ў краінах Еўрасаюза ў 100 аварыях гінуць 3 чалавекі, то ў нас паводле статыстыкі мінулага года —28

* * *

Летась сіроцкі статус атрымалі каля 6000 дзяцей, 800 з іх сапраўды засталіся без бацькоў, а астатнія — сіроты пры жывых маці і бацьку.

# Таленты нашага краю

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЯ СТАРОНКА



**Іван ЛАПО**

## Вяселле ў вёсцы

(АПАВЯДАННЕ)

**Вяселле** ў вёсцы, і яму ў той дзень было ўсё падпарадкавана. Нават сельскі магазін часова прычынілі.

— Пабягу, хутчэй, пагляджу на маладую, на маладога, а заадно і тэлеграму ўручу, — мітусілася ў аддзяленні сувязі чарнявая паштальёнка, спяшаючыся запакаваць сваю важкую сумку з карэспандэнцыяй.

А да хаты жаніха ўжо ішлі госці, з цягніка сыпанулі гарадскія. Жанчыны — у рознакаляровых блузках і спадніцах, бярэціках і хусцінках. Неяк важна, нібы тыя буслы на балоце, крочылі, хто ўподручкі, а хто і так са сваімі жанкамі, па вясковай вуліцы ў белых кашулях, з пярэстымі гальштукамі, мужчыны.

Пастараліся не запозніцца на вяселле і механізатары. Свой рабочы дзень яны пачалі яшчэ а пятай гадзіны раніцы, на золаку, поле ж чакаць не будзе, і цяпер да абедзеннага перапынку ён быў ужо завершаны.

Вяселле ў вёсцы. Аб ім усё гаварыла. І разнагалоссе людзей, нібы разбуджанага шчалінага вулля, у тым канцы вуліцы. І гучныя выклікі "горка, горка, горка!", якія вецер-весялун, ужо наведаўшыся туды, разносіў па ўсяму наваколлю, аж да самага ўзлеску.

Да шчыкацін прыліплі малыя. І ім цікава глянуць па вяселле, на гэтых вясёлых дзядзькаў і кабет, што кружыліся парамі. Самыя цікаўныя з іх прыраслі да акон у сваіх хатах. А Сашка-першаклашка з суседняга двара, ужо крыху асвоіўшы навуку, тое і рабіў, што лічыў гасцей па пальцах. "Лаз, два, тлы, чатылы, сем і дзесяць..." І нават верабей-жэўжык, прымасціўся на прасліне, каб хоць краёчкам вочка паглядзець на гэткае рэдкае цуда, якое так нечакана парушыла завядзёны птушыны спакой!

А там усё было ўжо ў самым разгары. Чокаліся за здароўе маладых і іх бацькоў! За шчасце і дружбу! І неяк сарамліва адчувалі сябе маладыя, калі нейкі захмялелы дзядзька выгукваў зноў знаёмае і толькі, відаць, якое прыгадалася ў той момант яму слова "горка!" (гарэлка і сапраўды была горкая-гарэліца), як яго адразу ж падтрымлівала вясёлая плойма гасцей, якія неведама як умясціліся ў вераснёўскім садзе. Яна яшчэ доўга час неўгамоньвалася.

Да позняга вечара чуліся вясёлыя песні і прыпеўкі, якія з заліхвацкім запалам спявалі ўсе: і пажылыя, і не дужа пажылыя людзі пад гукі меладычнага гармоніка. Замарылі нават гарманіста. Ён, крыху сцішыўся, падсілкаваўся, кульнуўшы чарку — другую за здароўе маладых, і зноў расцягнуў мяхі свайго нястомнага, паслухмяна-галасістага гармоніка. Зноў палілася музыка. Вясельная дзея працягвалася...

А ў адным з вясковых дамоў у гэты час двое дзядзькоў з другога канца другой вуліцы ўсё яшчэ лаялі свата. Гэта ж трэба, паказаў тры пальцы, а "ашчасліціў" іх толькі на два.

А чым яны прыналежныя да вяселля? Аказалася, "зайца" закінулі па даўняй вясковай традыцыі. Акраец хлеба, шчодра пасыпаны соллю, і паўнюткае вядро халоднай вады, толькі што выцягнутае са студні, на табурэтцы, як свой галоўны мандат, прад'явілі яны, загарадзіўшы дарогу маладым і іх суправаджаючым. І выкуп атрымалі. Аж дзве пляшкі гарэлкі. Але і гэтага ім падалося мала.

А яшчэ стрэлася маладым у тую ж хвіліну па дарозе старэнькая бабулька. Яна несла поўныя вёдры з чысцюткай калодзежнай вадой, як бы благаслаўляючы іх у вялікую жыццёвую дарогу. З поўным, кажуць, добрая прыкмета. Быць шчасцю ў доме маладых!

— Вось пара будзе! Адзін на аднаго падобныя. Дружна жыць будуць. І ён нічога, статны і ладны. І яна харошая, ласкавая і прыгожая. Дальбог! — ціха-ціха, каб ніхто іх не пачуў, перашэптваліся паміж сабой старыя бабулькі-гаварунні, уладкаваўшыся на ўкапанай ля хаты невялічкай драўлянай лавачцы.

...На двары стаяла залатая восень. Як мы ўсе ўдзячны ёй за тое, што сваёй прыгожай парой прыносіць яна на вёску не толькі шчодры ўраджай, а і яшчэ багата на вяселлі! Відаць, нездарма ў народзе кажуць: што куранят па восені лічаць. Што восень усяму дасць рады. Так яно, мабыць, і ёсць.

На вяселлі ж усё было: і песні, і скокі, і цікавыя розыгрышы. І ліліся не толькі песні. Не было толькі, як зараз у гараджан завядзёна, галавакружальнага падарожжа па горадзе і за горадам у суправаджэнні эскорту з легкавых аўтамашын, і чым больш, тым лепш, на іх думку. Вяселле ж праходзіла ў вёсцы і гулялі яго па-вясковаму. Проста, сціпла і весела.

І замест імклівых "фордаў" і "жыгулёў" і гучных запісаў стэрэамузыкі, кружыліся ў восеньскім садзе і на двары, сярод бяроз з жоўтымі пробліскамі лістоты, пад гукі нястомнага гармоніка пары вясёлых хлопцаў і дзяўчат, дзядзькоў і кабет.

Браліся прыцемкі, але вяселле было ў самым разгары. Мясцовы малады хлопец-механізатар браў сабе ў спадарожніцы жыцця такую ж маладую і прыгожую, як і сам, дзяўчыну-даярку.

1982 г.

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ**

### СНЕЖАНЬ

*Ён у апошнія гады*
*Быў не заўсёды снежным.*
*Часцей прыносіў нам дажджы,*
*Не снежным быў, а смешным.*
*І не аднойчы Новы год*
*Мы без сняжынкі сустракалі.*
*А колькі казачных прыгод*
*З-за гэтага гублялі!*
*Якім ён з'явіцца да нас*
*У гэты раз — хто скажа?*
*На гэта ў вызначаны час*
*Нам Дзед Мароз адкажа.*



***Зіма прыйшла.***
**Фота В.Бысава.**



**Василий ДОЛГОЛЕВ**

## КОЛДОВСКАЯ ЛЮБОВЬ

(повесть)

**(Продолжение. Начало см. NN 10—11, 13—14 и 20 за этот год)**

Разгоряченные, они почти неосознанно предались любви. Вдоволь насытившись любовью, они привели себя в порядок. У Вадима в сейфе оказалось в наличии полбутылки коньяка и плитка шоколада. Выпив по рюмочке и закусив, они поклялись любить друг друга, сколько хватит сил. Но знать об этом никто не должен.

— Как и где будем встречаться, договариваться будем заранее, — сказал Вадим, — а здесь этого делать нельзя.

— Да, конечно, это и сегодня было рискованно. Но я сама не знаю, как это все получилось. Ты меня просто околодовал. Я такого в жизни ни разу не испытывала. Я от ласк твоих потеряла голову! — сказала Тамара. — Но я рада, что так случилось. Я многое поняла, чего раньше не понимала. Теперь я уже не та, что была еще сегодня утром. Спасибо тебе за кусочек подаренного счастья!

— Слава Богу, всё прекрасно. У меня такое же ощущение. Я будто заново родился. А теперь пойдем в зрительный зал, на сцену, будем готовить, что нужно, для репетиции. Через 5—10 минут начнут люди собираться и застанут нас за этими приготовлениями.

Не успели они взойти на сцену, как начали собираться тихомские самодеятельные артисты. А вскоре и репеции начались. По каким-то делам Сиротин отлучился, и в это время знаменитый в Тихомске поэт и музыкант, хохмач-балагур Виктор Белявский забавлял коллектив новыми анекдотами и припевками. Взрывы смеха после каждой хохмы Виктора, казалось, поднимут потолок Дома Культуры. Вот он в очередной раз, приплясывая и смачно хлопая ладонями то выше колен по ногам, то по голеням, а то и по подошвам ботинок (он и это ловко проделывал, подпрыгивая), пропел новое четверостишие, то ли собственного сочинения, то ли где то услышанное:

*Кудри вьются, кудри вьются,*
*кудри вьются у б...ей,*
*почему ж они не вьются*
*у порядочных людей!*

После этого вначале было кое кто начал громко смеяться. Но некоторые смотрели на Виктора осуждающе. И смех резко оборвался. Всем стало неловко: рядом стояла скромная девушка — писаная красавица, зеленоглазая, в лице кровь с молоком, кудрявая от природы, любимица коллектива и публики, 19-летняя Света Могилевцева.

Виктор, будто ничего не случилось, преподнес еще одну "новинку":

*Папка едет в Ленинград,*
*Мамкин ё...рь очень рад.*
*Ладушки, ладушки,*
*будем жить у бабушки!..*

Смеха не последовало.

— Пошлятина! — Высказал свое мнение кто-то из присутствующих. И в это время в зал вошел Сиротин:

— В чем дело? — спросил он.

— Да вот Виктор сегодня совсем уже распоясался, — заговорили женщины, а мужики поведали Вадиму суть.

— Виктор! — сурово сказал Вадим. — Я тебя уже предупреждал — брось свои пошлые шуточки. Здесь тебе не притон, А центральное, скажем емче, главное учреждение культуры района. И нужно вести себя, как подобает культурному человеку. Еще раз повторится такое, не посмотрю, что ты классный специалист. Уволю. Незаменимых людей не бывает. И тебе найдем замену.

Расходились в этот вечер с репеции не с очень хорошим настроением. А Вадим с Тамарой все же улучили минутку, опустив занавес, крепко обнялись за ним на сцене, горячо поцеловались молча, лишь тихо шепнув друг другу на прощанье: "до новой встречи".

Следующая, с удовольствием, встреча выдалась лишь через месяц... То есть они встречались по три раза в неделю на репецициях, им удавалось обняться-поцеловаться накоротке, но и все на том. А утолить любовь сполна не приходилось. А через месяц Наташа Вадимова как то надумала с сыном съездить на пару дней к матери. Вот тогда Вадим и пригласил Тамару к себе домой вечером после репетиции.

Это была ночь колдовской любви. Они надежно зашторили окна, голенькие, как мать родила, ходили по залу, любовались друг другом, обнимались, прижимались перед трюмо, нежно ласкали друг друга, разглядывая при этом свое отражение в зеркале. Кувыркались затем в мягкой чистой постели, нежились. Вадиму хотелось иметь сотню рук, чтобы одновременно гладить все участочки ее нежного, ароматного тела. Тамара целовала Вадима неистово, обнимала, прижимала к себе сколько имела силы, нежно гладила его мужское достоинство, а временами сильно сжимала ладонями. Ей это нравилось, разжигало в ней страсть. И они вновь предавались любви. Уже бралось на утро. Нужно было Тамаре уходить, чтобы остаться никем не замеченной. А ей все не хотелось покидать любовное ложе.

— Пора, Тамарушка, пора, любая. Я провожу тебя. Скоро начнет светать, люди начнут просыпаться, могут увидеть тебя, выходящую от меня.

— Еще минуточку, Вадим... еще хочу, любимый прижаться к тебе. И она всем телом плотно прижималась к Вадиму, обцеловывая его лицо, шею, грудь. Ей теперь каазалось не страшным даже если бы хто их и в постели застал... Но Вадим вновь и вновь напоминал ей, что пора уходить.

Они оделись. Вадим проводил ее по тихим заснеженным улицам Тихомска до самого ее дома. А городок тихо спал.

У крыльца Тамариного дома оин еще раз обнялись, поцеловались в губы и Сиротин зашагал обратно.

**Мікола МІНЧАНКА**

### СУСТРЭЧА

*Матулі ткуць для донек кросны.*
*А дочкам кросны зноў снаваць.*
*А дрэвам сняцца тыя вёсны —*
*Іх вечна юным адкрываць.*
*І сад напоўнены трывогай,*
*Каб зноў вясною заквітнець.*
*Юнак напоўнены дарогай —*
*Яе прайсці, яе апець.*
*Усё навокал поўна болю,*
*І цішыні, і дабрыні.*
*Шчаслівы бачыць сваю долю*
*На белым радасным кані.*
*І конь нясе туды, дзе светла,*
*Дзе поўна сонца і журбы,*
*Дзе сустракаюцца прыветна*
*Дзве чыстых мары ля вярбы.*

### ДЗВЕ ВІШНІ

*Я нікуды не хадзіў.*
*І туга мне невядома.*
*Я дзве вішні пасадзіў*
*На узгрку каля дома.*
*З іх адна прамой расце.*
*Побач іншая — крывая.*
*Першая — ва ўсей красе.*
*А другая — ледзь жывая.*
*Смутак попаўзнем за мной:*
*Дрэўца стройнае у цвеце,*
*Ну, а вішні ні адной,*
*Быццам іх няма на свеце.*
*Я сустрэў яшчэ вясну.*
*У бары куе зязюля.*
*Мне таксама не да сну:*
*Вішню высекла бабуля.*
*Вось крывая зацвіла.*
*Не адкрыццць ніяк сакрэту.*
*Адкуль сілу узяла:*
*Вішняў поўна на ўсё лета.*
*Год прайшоў. Мінула два.*
*Пралятае ўжо і трэці.*
*Забелела галава:*
*Абламалі вішню дзеці,*

### СМАГА

*Маці сына вяла да Дняпра,*
*Каб пабачыў сінечу дабра,*
*Каб з крыніцы вады мог напіцца,*
*Дзе адвечная сіла бруіцца.*
*Тры таполі каля крыніцы.*
*Тры таполі, як тры зарніцы.*
*Тры таполі. Пустая фляга.*
*І жыццё ўсё астатняе — смага.*


### ВЫХАДНЫЯ ДАНЫЯ

**"Беларускі Усход".** Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. На беларускай і рускай мовах.

**Заснавальнік** — працоўны калектыў рэдакцыі.

**Адрас:** 213670, Магілёўская вобл., Хоцімскі р-н, в.Маркаўка. Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 22-9-89, намесніка гал. рэд. — 22-00-9.

**Рэгістрацыйны N141.**

Падпісны індэкс — 64098.

Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.

Адказнасць за дакладнасць фактаў, падзей, прозвішчаў і іншай інфармацыі нясуць аўтары апублікаваных матэрыялаў.

Газета падпісана да друку ў 16 гадзін 2 снежня 1999 г. Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.

Тыраж 2651 экз. Аб'ём І друк. аркуш. Заказ № 21.

**Галоўны рэдактар В.А. ДАЎГАЛЁЎ.**